Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

46 (554) 18 лістапада 2010 года.

Кошт свабодны

# Ì³í ïðàöû ðûõòóå ïðàïàíîâó àá ïàâûøýíí³ ç 1 ñòóäçåíÿ 2011 ãîäà ì³í³ìàëüíàé çàðïëàòû äà ¢çðî¢íþ ì³í³ìàëüíàãà ñïàæûâåöêàãà áþäæýòó

■Анастасія Янушэўская, *БелаПАН*

**Міністэрства працы і сацыяльнай абароны рыхтуе прапанову аб павышэнні з 1 студзеня 2011 года мінімальнай зарплаты да ўзроўню мінімальнага спажывецкага бюджэту. Аб гэтым паведаміў першы намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Пётр Грушнік 9 лістапада ў Мінску на пасяджэнні Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях.**

З 1 лістапада мінімальная зарплата ўстаноўлена на ўзроўні 400 тыс. рублёў, мінімальны спажывецкі бюджэт — 459,6 тыс.

Як заявіў Грушнік, мінімальная зарплата практычна ўсе асноўныя нарматыўныя акты, якія рэгулявалі аплату працы. У наступным працу па лібералізацыі аплаты працы плануецца прадоўжыць.Як сказаў прадстаўнік Мінпрацы, гэта дазволіць сфарміраваць рыначныя стымулы для павышэння інавацыйнай актыўнасці ўсіх суб'ектаў гаспадарання, стварыць спрыяльны клімат для прыцягнення інвестыцый у рэспубліку, спрыяць павышэнню міжнароднага рэйтынгу беларускай дзяржавы.

забяспечвае сацыяльную абарону працаўнікоў у сферы працоўных адносін. З 1 студзеня яе памер не змяняўся і з'яўляецца адным з самых нізкіх сярод краін СНД і ЕС. "Гэта прывяло да паніжэння сацыяльнай абароненасці працаўнікоў і ва ўмовах лібералізацыі аплаты працы недапушчальнае", — адзначыў першы намміністра.

Грушнік расказаў аб прынятых мерах па скарачэнні адміністрацыйнага рэгулявання аплаты працы ў камерцыйных арганізацыях галін эканомікі. З 2009 года былі перагледжаныя

# Ãëûáîêàå ñòàíå ñòàë³öàé Äíÿ áåëàðóñêàãà ï³ñüìåíñòâà ¢ 2012 ãîäçå

■ Паводле "*БелТА*"

**Як паведаміў учора на працоўнай нарадзе ў Глыбоцкім раёне старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец, рашэнне аб правядзенні Дня беларускага пісьменства ўжо прынятае, таму працы па падрыхтоўцы горада і раёна неабходна пачынаць ужо цяпер.**

Старшыня аблвыканкама даручыў распрацаваць дэталёвыя планы добраўпарадкавання і рэканструкцыі аб'ектаў адукацыі, культуры, аховы здароўя, ЖКГ.

*«Пры гэтым не варта абмяжоўвацца толькі райцэнтрам — працы павінны весціся па ўсім раёне. Не трэба наводзіць парадак для паказухі. Усё, што мы зробім, застанецца людзям»,*— падкрэсліў ён.

*«Дзень беларускага пісьменства — свята, якое выйшла на міжнародны ўзровень. Гэта магчымасць паказаць раён і вобласць шматлікім замежным гасцям»,* — дадаў Аляксандр Косінец.

У нашым рэгіёне свята беларускага пісьменства праходзіла двойчы. Так, у 2006 годзе гасцей прымалі Паставы, а ў 2009 г. - гаспадыняй свята стала Смаргонь.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Ãàñïàäàðûöü ³ íà… âàäçå

■ Чэслаў Якубовіч

**Адна з асаблівасцяў Браслаўскага раёна, акрамя багацця з трохсот азёр і цудоўных месц аў масавага адпачынку, – гэта вялікая колькасць маленькіх населеных пунктаў, нават хутароў.**

У такіх мясцінах актыўна сталі раскупляць дамы пад дачы гараджане і расіяне. А вось мясцовых жыхароў, хто б актыўна займаўся сельскай гаспадаркай, няшмат, усяго 11 фермерскіх гаспадарак засталося. І калі большасць з іх апрацоўвае зямлю, вырошчвае жывёлу, то сялянская фермерская гаспадарка “Запружаны” ўзяла іншы накірунак дзейнасці. Фермер Сяргей Скарадзёнак вырашыў паспрабаваць сябе ў вырошчванні рыбы. Для гэтага ім быў абсталяваны і летась зарыблены малькамі спецыяльны вадаём плошчай 8,5 гектараў. Прыйшлося вывучаць спецыяльную літаратуру, каб рыба расла правільна і імкліва набірала вагу. Першыя адловы аказалíся нядрэннымі, азёрную рыбу ахвотна набывалі пакупнікі. На гэтым фермер-рыбавод спыняцца не збіраецца. На ягонай воднай гаспадарцы неўзабаве будуць пабудаваны і спецыяльныя садкі для маладняку, які павінен падрасці, каб набыць таварны выгляд. Сяргей пераканаsuccessfully, што пры належным старанні праз некаторы час колькасць рыбы тут можа дасягнуць даваеннага ўзроўню, калі яе было вельмі багата на славутых вадаёмах азёрнага краю.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ðàñòóöü äàìû, áûöàì ãðûáû

■ Кастусь Александровіч

**Ужо некалькі апошніх гадоў у трэсце “Полацсельбуд” лідарам па аб’ёмах выконваемых работ застаецца аграбудпрадпрыемства “Рассвет Пастаўскі”, дзе больш за палову заказаў–на ўзвядзенне жылля.**

Толькі летась калектыў здаў навасёлам больш за 8 тысяч “квадратаў” і ўсё павялічвае тэмпы работ. Ніколі раней не было, каб у горадзе за год уласнымі сіламі здаваліся 3 шматпавярхоўкі па 60 кватэр кожная. Акрамя агульнабудаўнічых работ, будаўнікі асвоілі і вузкаспецыяльныя. У апошнім навабудоўлі ў райцэнтры самі выканалі сантэхнічныя работы пасля атрымання ліцэнзіі і падрыхтоўкі спецыялістаў. На набытай лініі пастаўчане таксама самі сталі рабіць балконныя сучасныя агароджы, класці плітку ў кватэрах. Цяпер будаўнікі пачалі ўзводзіць новы дом на 80 кватэр, які будзе заселены ў асноўным сем’ямі воінаў-пагранічнікаў. Пасля доўгага перапынку ў гарпасёлку Варапаева ўзводзіцца шматпавярхоўка, гатова дакументацыя на будаўніцтва ў Паставах яшчэ двух жылых дамоў і ёсць жадаючыя іх узводзіць з дапамогай дзяржавы. Такі жыллёвы бум калектыў толькі радуе, бо колькасць высокааплочваемых працоўных месцаў дасягне тут паўтысячы, а розныя аб’екты для будаўнікоў ёсць і ў суседніх раёнах.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Ïàäëÿ÷ûööà ¢ñ¸é ñÿì'¸é

■ Станіслаў Раманчук

**У вельмі прыгожым месцы на беразе аднаго з вадаёмаў з каскаду Браслаўскіх азёр размясціўся санаторый “Расінка”, што на тэрыторыі Мёрскага раён.**

Але не толькі з-за прыродных і экалагічных фактараў яго прызналі ў Беларусі лепшым санаторыем дзіцячага тыпу. У гэтым годзе ў дзіцячай здраўніцы адкрылі і новае аддзяленне на 30 месц для пражывання і лячэння бацькоў з дзецьмі. На будаўніцтва некалькіх шыкоўных драўляных катэджаў было патрачана амаль 1,5 млрд. рублёў, але ў выніку атрымаліся сапраўдныя прасторныя харомы. Дарэчы, і самі дарослыя могуць тут таксама атрымліваць аздараўленчыя працэдуры па пуцёўках коштам крыху больш за 1 млн. рублёў за тры тыдні адпачынку. А вось для хворых малых дзетак пуцёўкі сюды выдзяляюцца бясплатна. У гэтым санаторыі сучасная тэхнічная аснашчанасць і шырокі спектр медыцынскіх паслуг. Асабліва карысна падлячыцца тут дзецям і дарослым, у каго ёсць праблемы з органамі дыхання. Для гэтага абсталявалі сапраўдную пячору з саляных блокаў, паднятых з глыбокіх шахт радовішчаў “Беларуськалію” ў Салігорску. Пасля такіх сеансаў хваробы хутка адступаюць, паколькі ў ваколіцах чысцейшае паветра і няма навокал ніякіх шкодных прадпрыемстваў, што і прыцягвае сюды людзей з розных куткоў краіны.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 18.11.10 | | | | пятн. 19.11.10 | | | | сб. 20.11.10 | | | | нядз. 21.11.10 | | | | 22.11.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +4 | +7 | +9 | +7 | +7 | +8 | +9 | +8 | +6 | +5 | +7 | +5 | +4 | +5 | +6 | +4 | +3 | +4 | +3 |
| Ціск, мм | 750 | 749 | 749 | 749 | 749 | 749 | 748 | 748 | 749 | 749 | 749 | 748 | 746 | 743 | 742 | 741 | 741 | 741 | 741 |
| Вільготнасць, % | 97 | 95 | 90 | 93 | 96 | 94 | 93 | 94 | 95 | 94 | 82 | 93 | 97 | 96 | 95 | 96 | 97 | 96 | 90 |
| Вецер м/сек | В 8 | Ю-В 7 | Ю-В 7 | Ю-В 8 | Ю-В 7 | Ю-В 6 | В 5 | Ю 3 | Ю-З 2 | З 1 | В 1 | В 4 | В 5 | В 4 | С-В 3 | штл 0 | Ю 1 | С-З 2 | С-В 6 |
| | | 07:47 | 16:01 | | | 07:49 | 16:00 | | | 07:51 | 15:58 | | | 07:53 | 15:57 | | 07:55 | 15:55 | |
| | | 14:11 | 04:01 | | | 14:27 | 05:15 | | | 14:48 | 06:31 | | | 15:18 | 07:46 | | 15:58 | 08:57 | |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Беларусь будзе спрачацца з Расіяй, як заявілі ва ўрадзе, наконт павышэння тарыфаў за транзіт расійскага прыроднага газу па сваёй тэрыторыі з 2012 года. Тэма прэзідэнцкіх выбараў у РБ становіцца ўсё больш актуальнай для замежных СМІ. Калі галасаванне на іх будзе сумленным і свабодным, наша краіна можа атрымаць ад Еўрасаюза ў якасці дапамогі да 3 млрд. EUR. Больш за 2 млн. беларусаў прывітыя ад грыпу, пакуль захворванне на ВРВІ не перавышала эпідэмічны ўзровень.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**ЗША.** Толькі 198 месцаў атрымалі дэмакраты на выбарах у Палату прадстаўнікоў, іх апаненты – рэспубліканцы – 237, але партыя Б. Абамы захавала кантроль за Сенатам.

**Японія.** Кіраўніцтва краіны і самі японцы вельмі балюча адрэагавалі на факт наведвання прэзідэнтам РФ Д. Мядзведзевым паўднёвых Курыльскіх астравоў, Токіа лічыць іх сваімі.

**Кітай.** У самай шматнаселенай краіне свету (1,5 млрд. чалавек) пачалі чарговы 6-ы агульнанацыянальны перапіс насельніцтва, працай заняліся больш за 100 тысяч кітайцаў.

**Германія.** Для паліцэйскіх спецпадраздзяленняў барацьбы з наркотыкамі распрацавалі новую форму, на іх пагонах з'явяцца невялікія лісткі марыхуаны белага колеру.

**ЗША.** Спецслужбы краіны з дапамогай іх калег з Саудаўскай Аравіі прадухілілі чарговую серыю тэрактаў баевікоў "Аль-Каіды", ва ўсіх аэрапортах узмацнілі меры бяспекі.

**Іран.** Прэзідэнт М. Ахмадзінежад абвінаваціў Расію ў тым, што яна прадала яго краіну ворагам ісламу, адмовіўшыся аднабакова ад паставак зенітна-ракетных комплексаў С-300.

**Малдова.** На 101 месца ў парламенце на датэрміновых выбарах 28 лістапада прэтэндуюць 20 партый і 20 незалежных кандыдатаў, для партыі выбарчы прахадны парог складае 4 %.

**Канада.** На першай мячэці ў Арктыцы 80 мусульман з горада Інувік ля палярнага круга ўстанавілі мінарэт, будынак выкарыстоўваецца і для ісламскага культурнага цэнтра.

**Індыя.** Новыя прывіўкі дзецям ад поліяміэліту далі выдатны вынік, вакцына знізіла рызыку захворванняў на 90 %, вірус цяпер не будзе пагражаць спінному мозгу людзей.

**Расія.** На Новадзявочых могілках у Маскве побач з магілай памерлай вясной жонкі пахавалі экс-прэм'ера РФ В. Чарнамырдзіна, ён пакутаваў на рак нырак, пражыў 72 гады.

**Сінгапур.** Пасля страты ў небе аднаго з рухавікоў, экстрана прызямліўся найбуйнейшы ў свеце самалёт аэробус А380 авіякампаніі з Аўстраліі, выратаваліся 433 пасажыры.

**Грузія.** Міністры замежных спраў Грузіі і Ірана падпісалі ў Тбілісі пагадненне аб увядзенні ў 2011 годзе рэжыму бязвізавых паездак для грамадзян абедзвюх краін.

**ЗША.** Пасаду губернатара буйнога штата Каліфорнія вымушаны пакінуць сусветна вядомы Арнольд Шварцэнеггер, які прайграў на выбарах дэмакрату Джэрры Браўну.

**Эстонія.** На трасе паміж Талінам і Іклай паліцыя затрымала беларускага вадзіцеля, які ляцеў на сваім "Бентлі" з шалёнай хуткасцю–241 км/гадзіну, яму далі штраф 1 тыс. $.

**Францыя.** Цудам засталася жывой у Парыжы 1,5 гадовая дзяўчынка, якая выпала з акна кватэры на 8-м паверсе, спружыніла аб тэнт кафэ і трапіла ў рукі праходзіўшага ўрача.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Толькі ў верасні знешні доўг банкаўскай сістэмы Беларусі вырас на 550 млн. $ і дасягнуў свайго гістарычнага максімуму – 4,55 млрд. долараў, валюты банкам не хапае.

**Пінск.** Холдынг "Пінскдрэў" выдзеліў дадаткова сем'ям загінуўшых ад узрыва і апёкаў па 30 млн. рублёў, арганізаваў бясплатнае іх пахаванне, раненым – далі па 20 млн. рублёў.

**Мінск.** Ужо ў 1-м квартале 2011 года, як папярэдзіў эканаміст Яраслаў Раманчук, з-за празмернай грашовай масы рост цэн можа скласці 25-30 %, пад пагрозай і курс рубля.

**Шчучын.** Толькі цудам удалося пазбегнуць ахвяр,калі за 10 км ад горада на трасе Мінск-Гродна поўнасцю згарэў турыстычны аўтобус з 40 пасажырамі, 3 з іх моцна параненыя.

**Магілёў.** Малочная кампанія "Бабуліна крынка" першай сярод айчынных прадпрыемстваў атрымала ў Турцыі Еўрапейскую прэмію якасці сваёй прадукцыі, яна зараз мае 8 заводаў.

**Рэчыца.** Самы сучасны на Гомельшчыне камп'ютарны тамограф коштам больш за 1 млн. $ пачаў працаваць у райбальніцы, ён забяспечыў поўную дыягностыку мозга і ўсяго цела.

**Гродна.** Адразу 113 забудоўшчыкаў элітнага дома падманула беларуска-расійская фірма "Кансент", якая ўзяла грошы за жыллё і ўжо паўгода, як спыніла яго будаўніцтва.

**Барысаў.** Ваенны суд Беларусі пазбавіў воінскага звання , канфіскаваў маёмасць і даў 4 гады турмы падпалкоўніка, экс-начальніку аддзела прызыву ваенкамата за факты хабару.

**Смаргонь.** Скандал узнік у спецпадраздзяленні "Страла" ДАІ МУС Беларусі пасля гібелі на пажары ў доміку ля райцэнтра намесніка начальніка службы экскарціравання.

**Дрыбін.** У доме рамёстваў аграгарадка Кароўчына адрадзілі выраб старажытнага абутку продкаў – лапцей з кары лыка, іх ахвотна раскупляюць па 50 тыс. рублёў за пару.

**Мінск.** Чарговы конкурс песні дзіцячага "Еўрабачання-2010" стане на 15 хвілін карацей, ён пройдзе 20 лістапада адразу на трох сцэнах дызайнераў са Швецыі, выраблены у РБ.

**Гомель.** З-за цёплага надвор'я ў лістападзе ў абласным цэнтры зноў зацвілі травы і аднагадовыя кветкі дзьмухаўца і рамонкаў.

**Жлобін.** У цемры вадзіцель гарадскога аўтобуса збіў насмерць 50-гадовага пешахода без флікераў і працягнуў цела нябожчыка па трох вуліцах райцэнтра амаль 1,5 кіламетра.

**Мінск.** У галоўную конкурсную праграму XVII міжнароднага кінафестывалю "Лістапад" уключылі толькі 12 значных мастацкіх фільмаў і 20 дакументальных, кошт білетаў 10 тыс.

**Барысаў.** Упершыню ў гісторыі айчыннага спорту мясцовая каманда БАТЭ датэрмінова выйшла з сваёй групы Е ў фінальную частку розыгрышу футбольнай Лігі Еўропы.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Па дапоўненай абласной праграме "ВітАгра" да 2015 года павінны правесці рэканструкцыю ўсіх існуючых калгасных майстэрняў, на што пойдзе 1 трлн. рублёў.

**Сянно.** Падчас земляных работ у райцэнтры знайшлі адразу 6 мінамётных мін калібру 81 мм часоў вайны, сапёры вывезлі смяротны арсенал у бяспечнае месца і знішчылі.

**Паставы.** Экіпаж верталёта эскадрыллі пагранвойскаў РБ выканаў спецзаданне, даў залп сігнальнымі ракетамі на месцы крушэння год назад на Брэстчыне іх калег з Польшчы.

**Віцебск.** З пачатку года 10 буйных прадпрыемстваў горада знізілі аб'ёмы вытворчасці, таму ўзровень заработнай платы дасягнуў у абласным цэнтры 411 USD у эквіваленце.

**Глыбокае.** На камбікормавым заводзе завяршаюць наладку новай чэшскай лініі коштам амаль 2,5 млрд. рублёў па перапрацоўцы да 20 тысяч тон насення рапсу штогод.

**Віцебск.** Вечарам з-за пажару ў абласной бальніцы прыйшлося эвакуіраваць 30 хворых пацыентаў аддзялення неўралогіі, агонь пашкодзіў 60 вокнаў і дзвярэй.

**Орша.** Каля станцыі Коханава паблізу горада праходзячым грузавым цягнікам была смяротна траўміравана 70-гадовая жыхарка суседняга Талачынскага раёна.

**Віцебск.** Тэхнолагі мясакамбіната здзівілі ўсіх на XVI міжнароднай выставе "Харчэкспа-2010" сваёй кампазіцыяй з мяса у выглядзе вулачак горада і нават летняга амфітэатра.

**Наваполацк.** Фірма "Белсплат" да канца года адкрые яшчэ 50 рабочых месц на новым сваім заводзе па выпуску да 4 тысяч розных металічных дзвярэй у месяц на лініях з Італіі.

**Багушэўск.** З абласной туберкулёзнай бальніцы злодзей спрабаваў украсці вечарам праз акно камп'ютар, але сабака міліцыі ўзяў след і знайшоў зламысніка па гарачых слядах.

**Полацк.** Да 22 чэрвеня 2011 года ў горадзе будзе ўзведзены Мемарыяльны комплекс памяці ахвяр фашызму "Урочышча Пескі", дзе пахаваны больш за 150 тысяч нашых суайчыннікаў.

**Віцебск.** У былым дзіцячым садку пасля рэканструкцыі коштам 1,3 млрд. рублёў адкрылі першы ў вобласці цэнтр для падтрымкі бяздомных на 36 месц з душавымі і сталоўкай.

**Паставы.** Новы дзетсад на 175 месц у віцебскім мікраёне Білёва абсталявала сучаснай і камфортнай мэбляй, выраблены па спецзаказу, прадпрыемства "Паставымэбля".

**Новалукомль.** Кіраўнік вобласці А. Косінец паабяцаў навучэнцам СШ № 1 да 2012 года прыбудаваць да новага спартзала басейн, але дагэтуль залу ўзводзілі цэлых 12 гадоў.

**Віцебск.** На месцы земляных работ па вуліцы Калініна віцяблянін Леанід Свецік знайшоў шэраг прадметаў канца XVIII стагоддзя: 2 лыжкі, некалькі манет, спражку, посуд угоддзя.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**14** – столькі чалавек загінулі, як паведамілі айчынныя СМІ, у выніку моцнага выбуху на прадпрыемстве "Пінскдрэў", дзе ў разгар рабочага дня згарэў і цэх па вытворчасці ДСП. Гэта трагедыя на вытворчасці стала не проста буйнейшай у гісторыі суверэннай Беларусі. У адрозненне ад савецкіх часоў, пра бяду беларусы даведаліся ў той самы чорны дзень панядзелка 25 кастрычніка, а мясцовая пракуратура адразу распачала крымінальную справу.

Гэта здарэнне ўзрушыла ўсю нацыю. У горад над Пінай аператыўна прыбыла дзяржаўная камісія з 17 прадстаўнікоў розных міністэрстваў і следчых. Вынікі расследавання прычын узнікнення пажару, калі чорны дым ахутаў увесь горад, былі прадстаўлены Савету бяспекі Беларусі. Але і да гэтага часу яшчэ шэсць рабочых знаходзіліся ў рэанімацыі з моцнымі апёкамі цела. Перад гэтым ужо пахавалі намесніка гендырэктара па вытворчасці, які знаходзіўся ў момант здарэння ў цэхузабойцы.

Сведкі трагедыі расказваюць, што было жудасна бачыць, як гарэлі факеламі рабочыя спяцоўкі з сінтэтычных валокан. Пасля выбуху з цэха выбягалі абгарэлыя, практычна голыя людзі. Спачатку лічылася, што прычынай пажару мог стаць выбух драўлянага пылу з-за парушэнняў правілаў эксплуатацыі абсталявання. Выбух быў такой моцы, што на бліжэйшым аўтобусным прыпынку некаторыя людзі страцілі прытомнасць, у паветры з"явіўся пах смол і іншых рэчываў, якія гарэлі.

Як на грэх, гэта трагедыя адбылася, калі калектыў аднаго з самых паспяховых прадпрыемстваў айчыннай дрэваапрацоўчай прамысловасці рыхтаваўся адзначаць свой 130-гадовы юбілей. Зараз усе гэтыя запланаваныя ўрачыстасці адменены, у холдынгу "Пінскдрэў" аб'явілі жалобу да канца года. Дні смутку былі аб'яўлены і ў самой Брэсцкай вобласці. Беларуская дзяржава заявіла аб гатоўнасці дапамагчы сем'ям загінуўшых і тым, чые родныя знаходзіліся ў бальніцах. Як-ніяк, а на сваіх працоўных месцах у момант выбуху знаходзілася 48 чалавек.

Праз 10 дзён пасля трагедыі свае спачуванні родным і блізкім загінуўшых і памерлых выказаў і Аляксандр Лукашэнка. Выплаты пацярпелым сем'ям былі павялічаны больш чым у 10 разоў з першапачатковых 10 млн. рублёў кампенсацыі, выдзеленай самім прадпрыемствам. Канешне, грошы ніколі не кампенсуюць сем'ям страту іх кармільцаў і работнікам – страту здароўя, але такія сумы ўжо выглядаюць прыстойна ў наш час, калі ўсё дарагое, у тым ліку і самі пахаванні, якія ўзяў на сябе холдынг.

Пакуль дзяржкамісія не ўстанавіла прычыну выбуху, нікому не было прад'яўлена абвінавачванне. Аднак на самім прадпрыемстве мяркуюць, што прычынай гэтай страшнай аварыі мог стаць чалавечы фактар, памылка персаналу у перыяд, калі абсталяванне знаходзілася на рамонце.

У Пінску ж выбухнула новае нямецкае абсталяванне на ўчастку па вырабу паліўных брыкетаў – пеллет, якія пастаўляліся на экспарт па 100 еўра за тону. Гэта вытворчасць была кругласутачнай, у 3 змены.

З цягам часу расследаванне завершыцца, прычына бяды будзе ўстаноўлена. Але цяпер відавочна, што для "Пінскдрэва" здарэнне нанесла вялізны эканамічны ўрон. Пасля страты цэлага завода пад пагрозай далейшая вытворчасць мэблі і ўжо ўзнік дэфіцыт ДСП у Беларусі. Яшчэ адзін урок з гэтых сумных падзей: нельга дасягнуць эканамічнага росквіту на старой, яшчэ савецкай, у большасці сваёй састарэлай тэхналагічнай базе, з маральна і фізічна зношаным абсталяваннем, а таксама пры неэфектыўнай сістэме аховы працы і тэхнікі бяспекі.

Вось бы гэтыя высновы засвоіць тым упраўленцам, асабліва ў нас, на Віцебшчыне, якія спускаюць загады дабіцца рэкордных аб'ёмаў росту вытворчасці, па сутнасці, любой цаной. Калі такімі падходамі будзем забяспечваць планавы рывок, то не выключана, што неўзабаве можа нешта зноў ірвануць альбо ўспыхнуць яркім полымем. Да таго ж, колькасць ахвяр і траўм на вытворчасці штогод узрастае, хоць даражэй за жыццё людзей няма нічога...

# Ягель

■ Уладзімір Скрабатун



**Галубіцкая пушча – скарбніца нашага краю!**

Яшчэ нейкіх 15 тысяч гадоў таму на тэрыторыі Глыбоччыны ляжаў ледавік. Таўшчыня яго даходзіла да 2-х, а то й 3-х кіламетраў. Але ледавік пачаў таяць і незваротна адыходзіць на Поўнач. Аднак яшчэ не адну тысячу гадоў у тоўшчы зямлі заставаліся вялізныя глыбы льду. Яны з цягам часу растаялі, і на іх месцы ўтварыліся нашыя глыбоцкія азёры.

Тады ж навокал быў адзін пясок, ніякай расліннасці: ні дрэў, ні травы. Перасыпаючы пясок, дзьмуў вецер. Месцамі ўтвараліся дзюны, як, напрыклад, каля Ліпава. А сама Галубіцкая пушча была у той час вялікім прыледавіковым возерам-морам. Ад гэтага возера-мора засталіся цяпер толькі разлеглыя верхавыя балоты і шмат азёраў, напрыклад, Шо.

Паступова дзюны пачалі зарастаць лішайнікамі, сярод якіх быў ягель. Інакш яго называюць алені мох. Алені мох – любімы ласунак паўночных аленяў.

Ягель і сёння ўтварае амаль фантастычныя краявіды на дзюнах Галубіцкай пушчы. Сюды ў мінулую нядзелю і завіталі аўтар гэтых радкоў ды Кастусь Бахір, з якім заўсёды можна рэалізаваць самыя авантурныя планы. Праўда, прыехалі мы не на ягель паглядзець, а за грыбамі. Зялёнкі яшчэ ёсць у лесе, і гэтаму спрыяе цёплае лістападаўскае надвор'е.

Спадарства, а Вы штонебудзь ведаеце пра ягель, акрамя таго, што гэта – ласунак паўночных аленяў? Сумняваюся!




Скандынаўскі алкагольны напой Аквавіт (Aquavit).

Ягель чысціць печань, ныркі, кішэчнік, падстраўнікавую залозу, сасуды, лімфу і кроў ад таксінаў. Антымікробныя рэчывы, якія змяшчаюцца ў ягелі, актыўныя не толькі супраць стафілакокаў, стрэптакокаў, гніласных бактэрый і іншых мікраарганізмаў, але і супраць сухотнай палачкі, захоўваючы пры гэтым карысную мікрафлору кішэчніка. Дазваляе зменшыць узровень глюкозы ў крыві людзей з цукровым дыябетам II тыпу на 40-80%. Ужываецца пры лячэнні алкагалізму і тытунекурэння. Адвар аленяга моху прымаюць пры бранхіяльнай астме, сухотах, раку лёгкіх і страўніка, запалення кішэчніка, дысбактэрыёзе, як сродак для паласкання ротавай поласці і горла пры хваробах дзёсен і запалёных міндалінах і для апрацоўкі ран. Чай з ягелю эфектыўны пры кашлі (у тым ліку каклюшы), страўнікава-кішэчных захворваннях, пры страце апетыту і знясіленні пасля інфекцыйных хвароб.

Гэты ядомы, хоць і вельмі горкі лішайнік выкарыстоўваецца пры вытворчасці скандынаўскага алкагольнага напою Аквавіт (Aquavit) – "Вада жыцця". Ад лацінскага – Aqua Vitae.

Шаноўныя прадпрымальнікі, дару Вам ідэю! "Ваду жыцця" можна прадукаваць і ў нас на Глыбоччыне. Уявіце: кожны турыст, які наведвае Глыбокае, купіць у Вас "Ваду жыцця". Гарантую! Спяшайцеся, бо ягель расце не толькі на Глыбоччыне.

І яшчэ. Ягель неабходны пры хваробах органаў дыхання і стрававання, хвораму адразу становіцца лягчэй. Каб прыбраць гаркату, яго рыхтуюць на малацэ; на вадзе ягель атрымліваецца горкім, але калі вельмі дрэнна, баліць усярэдзіне, трэба піць такі.

Дапаможа ягель і тым, у каго праблемы з косткамі, асабліва падагра, хандроз, артроз, сцёртыя дыскі, ёсць дыскавыя грыжы. Лепш за ўсё яго спалучаць з ягадамі брусніцаў (есці хоць бы па лыжцы ягад).

Між іншым, карэнныя жыхары Чукоткі традыцыйна выкарыстоўваюць у ежу ягель, вараць з яго халадзец. Ягель, звараны ў малацэ, нагадвае грыбы. Пажыўная каштоўнасць ягеля вельмі высокая – 1 цэнтнер ягелю замяняе 3 цэнтнеры бульбы.

Сярод дваццаці тысяч відаў лішайнікаў найбольшае практычнае значэнне мае менавіта ягель. На Русі здаўна выкарыстоўвалі яго для выпечкі хлеба ў галодныя гады. Сяляне вымочвалі ягель на працягу сутак у растворы соды для выдалення горкага смаку, затым старанна прамывалі вадой, сушылі і здрабнялі ў муку.

Дарэчы, ягель утрымоўвае ў сабе вельмі моцны антыбіётык – уснінавую кіслату, якая стрымлівае рост гніласных бактэрый. Даўней, калі не было халадзільнікаў, лішайнікам абкладвалі мяса, каб яно не псавалася. Яно магло доўга захоўвацца нават пры пакаёвай тэмпературы.

Уснінавая кіслата не толькі забівае гніласныя бактэрыі, яна нават у вельмі маленькай канцэнтрацыі – 1:1000000 можа забіць сухотную палачку. Але як ні дзіўна, ягель дзейнічае выбарча, пры гэтым захоўваецца карысная мікрафлора кішэчніка.

Слізь, якая ўтрымоўваецца ў ягелі, аказвае ахінальны эфект пры кашлі, язве страўніка і дванаццаціперснай кішкі.

Ягель падыходзіць для касметычных масак, ваннаў.

Трэба выразна ведаць, як выглядае ягель, дзе яго збіраць. Можна купіць у аптэцы, але там ён дорага каштуе, а па вазе яго мала, у той час як на сям'ю запатрабуецца каля бульбянога мяшка ягелю. Шукайце яго у сасновых барах, ён расце на пясчанай глебе. Збіраючы, трэба ўстаць на ягель нагой і адарваць частку, а тое, што пад нагой, хай далей расце. Нельга забіраць усё без рэшты! Бо расце ён вельмі павольна, 2-3 мм у год, і сустракаецца не паўсюдна. Узрост яго сягае да 400-500 гадоў.

Сохне ягель добра, захоўваецца выдатна.

## Францыя перадасць Беларусі лічбавыя копіі дакументаў ВКЛ

**Лічбавыя копіі дакументаў Вялікага Княства Літоўскага, якія захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Францыі, плануецца перадаць у Беларусь. Такую магчымасць абмеркавалі на сустрэчы ў Мінску міністр культуры Беларусі Павал Латушка і прэзідэнт Нацыянальнай бібліятэкі Францыі Бруно Расін.**



На сустрэчы былі абмеркаваны магчымасці рэалізацыі сумесных праектаў, звязаных з арганізацыяй навуковых даследаванняў і вывучэннем фондаў нацыянальных бібліятэк абедзвюх краін, вырабам лічбавых копій дакументаў. У прыватнасці, Бруно Расін у адказ на прапанову Паўла Латушкі пацвердзіў магчымасць перадачы беларускаму боку лічбавых копій дакументаў ВКЛ.

У часе падрыхтоўкі ў Беларусі да памятных мерапрыемстваў з нагоды 200-годдзя вайны 1812 года сумесным праектам можа стаць віртуальная рэканструкцыя матэрыялаў вядомага бібліяфіла і мецэната Івана Каладзеева, частка якіх захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

*БЕЛТА*

## Падзяка

Непрыемнасці звычайна здараюцца знянацку. Так і ў мяне – нечакана абвалілася сцяна цаглянага дома, а тут – непагадзь: мокры снег, золь, вецер. У роспачы кінулася да кіраўніцтва ДП "Азярцы": што рабіць, як ратаваць хату? З увагай аднесліся, падтрымалі, адразу адправілі спецыялістаў рамантаваць. Вялікі дзякуй за дапамогу дырэктару Завацкай Алене Аркадзьеўне, прарабу Жырнову Алегу Валер'евічу, а таксама Ціманавічу Аляксандру Анатольевічу і рабочым. Няхай Бог дасць Вам здароўя, бадзёрасці, душэўнага спакою і даўгалецця.

***Яўгенія Юльянаўна Грышанковіч.***

## БПЦ мае намер кананізаваць новага святога

**Беларуская праваслаўная царква мае намер кананізаваць святапакутніка Аляксея Магільніцкага – прэсвітэра Лельчыцкага, паведамілі ў Тураўскай епархіі.**

Плануецца, што рашэнне будзе прынята на пасяджэнні Святога Сінода БПЦ пад старшынствам Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсёй Беларусі Філарэта 20 лістапада ў Мазыры. Чакаецца, што літургія з чынам кананізацыі будзе здзейсненая 21 лістапада – у прастольнае свята Свята-Міхайлаўскага кафедральнага сабора Мазыра.

Аляксей Магільніцкі ў першай палове XX ст. служыў на тэрыторыі гэтай дыяцэзіі, якая тады называлася Мінскай і Тураўскай, а затым Мазырскай. Ён нарадзіўся ў 1870 г. у Мінску, а ў 1892 г. скончыў Мінскую духоўную семінарыю і праз год у Свята-Духавым кафедральным саборы быў высвячаны ў святара. Яму давялося служыць у розных прыходах, у тым ліку ў Свята-Міхайлаўскім саборы Мазыра, а таксама ў саборы Найсвяцейшай Тройцы ў Лельчыцах.

У 1935 г. улады зачынілі гэты храм і сталі выкарыстоўваць як збожжасховішча.

Аднак святар працягваў здзяйсняць трэбы і нават набажэнствы ў сябе дома, але быў арыштаваны. Яго пасадзілі ў турму, якая размяшчалася ў згаданым Свята-Міхайлаўскім саборы. У 1937 годзе яму, як і многім іншым, быў вынесены смяротны прысуд, які прывялі ў выкананне прама ў храме.

Магчыма, унайбліжэйшай будучыні БПЦ кананізуе і іншых святароў-новапакутнікаў Тураўскай епархіі, якія пацярпелі ад рэпрэсій.

*БЕЛТА*

## У праекце ўказа Прэзідэнта аб развіцці ўязнога турызму плануецца прадугледзець зніжэнне кошту віз

**У праекце ўказа Прэзідэнта аб мерах па развіцці ўязнога турызму плануецца прадугледзець зніжэнне кошту віз для замежных грамадзян. Пра гэта паведаміў 15 лістапада журналістам у Мінску памочнік прэзідэнта Беларусі па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму Ігар Зайчкаў.**

Паводле яго слоў, адпаведны праект указа праходзіць дапрацоўку ў Міністэрстве спорту і турызму. У першай яго рэдакцыі планавалася прадугледзець адмену консульскіх збораў за візы для грамадзян краін Еўрасаюза з 2011 года, аднак «МЗС унесла свае прапановы».

Як адзначыў Зайчкаў, Мінспорту актыўна працуе з мэтай «вырашэння візавага пытання», бо высокі кошт беларускіх віз, асабліва ў аэрапортах, перашкаджае развіццю ўязнога турызму. Першыя крокі гэта спрашчэнне візавага рэжыму для жыхароў прыгранічнай зоны з Польшчай.

Як адзначыў Зайчкаў, у шэрагу краін суседзяў Беларусі было прынята рашэнне аб адмене консульскіх збораў за візы для грамадзян ЕС, меры ў адказ прыняў і Еўрасаюз.

Што да Беларусі, то «ўсе зацікаўлены знайсці залатую сярэдзіну, для гэтага і дапрацоўваецца ўказ: улічыць інтарэсы і дзяржавы, і беларускіх, і замежных грамадзян». «Тут трэба ўсё лічыць, каб не трапіць у такую сітуацыю, што мы адменім консульскія зборы, а нам не адменяць. Гэта таксама будзе няправільна», сказаў Зайчкаў.

Спецыяліст падкрэсліў, што развіццё ўязнога турызму «тэма вельмі сур'ёзная, вельмі неабходная ў краіне». Паводле яго слоў, сёння цікавасць да Беларусі расце. «У краіне ёсць што паказаць: аднаўляюцца аб'екты турызму, развіваецца аграэкатурызм», адзначыў Зайчкаў.

***Анастасія Янушэўская, БелаПАН.***

Выбары-2010

# Кандыдатаў у прэзідэнты зарэгіструюць 18 лістапада

**Дату рэгістрацыі назвала старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзія Ярмошына на сустрэчы з міжнароднымі назіральнікамі БДІПЧ АБСЕ.**

Дакументы падалі:

- намеснік старшыні Партыі БНФ **Рыгор Кастусёў;**
- дзейны прэзідэнт **Аляксандр Лукашэнка;**
- кіраўнік саюза «За мадэрнізацыю» **Алесь Міхалевіч;**
- лідар грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!» **Уладзімір Някляеў;**
- намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Яраслаў Раманчук;**
- сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» **Віталь Рымашэўскі;**
- лідар кампаніі «Еўрапейская Беларусь» **Андрэй Саннікаў;**
- лідар аргкамітэта па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) **Мікола Статкевіч;**
- дырэктар ТДА «Трывіум» **Дзмітрый Ус;**
- эканаміст **Віктар Цярэшчанка.**

«Прэтэндэнты на пасаду кіраўніка дзяржавы, якія сабралі больш за 100 тысяч подпісаў, з высокай доляй верагоднасці будуць зарэгістраваны кандыдатамі ў прэзідэнты», — заявіў раней сакратар ЦВК Мікалай Лазавік.

*Радыё Свабода*

**Кампанія па выбарах Прэзідэнта РБ усё больш актуалізуе цікавасць беларусаў да палітыкі. Падчас праведзенага ў кастрычніку Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПІ) апытанні быў зафіксаваны істотны рост рэйтынгу альтэрнатыўных прэтэндэнтаў на пост прэзідэнта.**

Алег Манаеў:

# Мяне ўражвае дынаміка росту рэйтынгу Някляева

Так, паводле даследавання, 32.4% рэспандэнтаў сёння ведаюць, што Уладзімір Някляеў (якога яшчэ нядаўна ведалі толькі як паэта) збіраецца балатавацца на цяперашніх прэзідэнцкіх выбарах (Аляксандра Лукашэнку назвалі 72.3%, Андрэя Саннікава – 13.6%, Яраслава Раманчука – 6.2%).

Асабліва ўразіў НІСЭПІ рост рэйтынгаў альтэрнатыўных кандыдатаў: усяго за паўтара месяца, якія прайшлі з часу верасьнёвага апытання, закрыты рэйтынг У. Някляева вырас з 5.1% да 16.8% (адкрыты – з 1.1% да 7.7%), закрыты рэйтынг А. Саннікава – з 3% да 8.6% (адкрыты – з 0.3% да 3%), закрыты рэйтынг Я. Раманчука – з 2.6% да 6.1%, закрыты рэйтынг Алеся Міхалевіча – з 2.3% да 6.4%.

Зрэшты, рэйтынг А. Лукашэнкі таксама падрос і вярнуўся на ўзровень чэрвеня – 44% па адкрытым пытанні і 48.2% па закрытым, аднак да ўзроўня лютага 2006 г. (57.6%) ён відавочна не дацягвае.

Вынікі кастрычніцкага апытання «Беларускаму партызану» каментуе дырэктар НІСЭПІ прафесар Алег Манаеў.

– Алег Цімафеевіч, чым тлумачыцца падзенне рэйтынгу Лукашэнкі: у верасні – падзенне, у другой палове кастрычніка – рост. У чым прычына?

– Аналітыкі ўжо пісалі пра гэта. Тут сышліся некалькі прычын. Першая звязана з канфліктам, які выліўся паміж Крамлём і Мінскам. Беларусы выпрабоўваюць глыбокія ўстойлівыя сімпатыі да Расіі на працягу ўсіх апошніх 15 гадоў, праваднікамі якіх быў сам Лукашэнка. Таму гэты канфлікт збянтэжыў шмат каго і выклікаў здзіўленне.

Акрамя таго, верасьнёўскае апытанне праходзіла ў пачатку верасня, калі людзі вяртаюцца з адпачынкаў, калі не было ніякіх фінансавых напамповак. Апошняе апытанне праходзіла ў другой палове кастрычніка: разгубленасць, выкліканая канфліктам, ужо прайшла ў значнай ступені, а трацина бюджэтнікаў атрымалі фінансавае падсілкаванне. Такога даўно не было.

Таму ў дадзеным выпадку дзіўна не вяртанне рэйтынгу, а тое, што ён наогул абваліўся.

– Гэта значыць, з рэйтынгам Лукашэнкі нічога істотнага не адбылося?

– Калі не лічыць падзення прыкладна на 5%, то нічога не адбылося. Калі параўноўваць рэйтынг Лукашэнкі за апошнія паўгода (у чэрвені і ў кастрычніку), то тады было 48%, і цяпер 48%.

– На сайце НІСЭПІ сказана, што рэйтынг апазіцыйных кандыдатаў уражвае. Чым менавіта ўражвае?

– Гэта пытанне да аўтараў – я не з'яўляюся аўтарам гэтага матэрыялу. Але, на мой погляд, уражвае дынаміка росту рэйтынгу. Калі ў верасні закрыты рэйтынг у Някляева быў 5,1%, то праз паўтара месяца ён вырас да 16,8% – гэта значыць, у тры разы. Хтосьці скажа: у Лукашэнкі – 48%, у Някляева – усяго 16%. І ён мае рацыю, з аднаго боку. Але мяне асабліва ўразіла дынаміка. За 40-45 дзён, якія прайшлі паміж даследаваннямі, каманды ўсіх апазіцыйных прэтэндэнтаў, асабліва каманда Някляева, здолелі вельмі сур'ёзна папрацаваць.

Праўда, запісваць усё на рахунак паліттэхнолагаў прэтэндэнтаў не варта. Не трэба забываць, што падчас верасьнёўскага апытання яшчэ ні Мілінкевіч, ні Казулін не заяўлялі пра тое, што не ідуць на прэзідэнцкія выбары. А калі пасля гэтага пытання стала зразумела, што ні адзін, ні другі на выбары не ідуць, значная колькасць іх прыхільнікаў пачала перацякаць да іншых кандыдатаў, што і прывяло да росту рэйтынгаў.

– 26,5% сумарнага рэйтынгу – гэта сур'ёзна?

– Сумарны рэйтынг у 26,5% – гэта дакладнае матэматычнае паняцце. Нельга проста скласці лічбы, якія пазначаюць рэйтынг сямі кандыдатаў. Таму што чалавек можа быць адзін, а галасоў – і 2, і 3, і пяць. Пытаюць у рэспандэнта: за каго б прагаласаваў? За Саннікава. А за Някляева прагаласаваў бы? Прагаласаваў бы! Таму для атрымання лічбы 26,5% сумарнага рэйтынгу апазіцыйных кандыдатаў прыйшлося праводзіць адмысловыя матэматычныя аперацыі.

– Даследаванне паказвае, што 44,6% рэспандэнтаў гатовыя зноў абраць Лукашэнку, 43,6% хацелі б даць шанец новаму чалавеку. Ці можна казаць пра тое, што ў грамадскай свядомасці адбыўся нейкі перелом?

– Не, нельга. Нельга казаць ні пра які перелом. Максімальны паказчык, які даводзіцца на долю апазіцыі, – гэта 30%. Гэты паказчык не змяняецца на працягу апошніх 15 гадоў. Нават 43,6% апытаных, якія тэарэтычна хацелі б новага прэзідэнта, не бачаць у гэтых кандыдатах рэальнай фігуры.

Вы робіце самую распаўсюджаную памылку. Трэба лічыць не ад ста працэнтаў, а ад колькасці тых, хто прыйшоў на выбары. Нават тыя 48%, якія мае цяпер Лукашэнка, пры яўцы ў 70 працэнтаў у выніку даюць 65%.

**Лепель у чарговы раз стаў месцам сустрэчы духавенства з усёй Віцебскай дыяцэзіі. Адбылося гэта 9 лістапада ў Свята гадавіны пасвячэння Латэранскай базылікі. Святары, манахі і манахіні сабраліся ў касцёле, каб аднавіцца духоўна праз сакрамэнт споведзі і эўхарыстыі.**

# Сустрэча ў спадчыне Сапегі



■ **ксёндз Віктар Місевіч**

Цэлебраваў св. Імшу біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін. Ён падкрэсліў важнасць такіх штомесячных сустрэч і падзякаваў усім за адданую працу.

Словы казання да сабраных скіраваў а. Марэк Пасют OFMCap, пробашч Докшыцкай парафіі. Нагадваючы пра сэнс перажыванага свята, айцец заахвоціў святароў і сясцёр да трываласці ў Хрысце і ўмацавання ў цнотах.

Айцец Раман Шульц, дамініканін, у канферэнцыі распавёў пра магчымыя памылкі, якія могуць паўстаць пры пабудове супольнасці.

Было шмат арганізацыйных пытанняў. Кс. Вячаслаў Барок распавёў пра планы новых пілігрымак па святых месцах Еўропы. Кс. Раман Мурзіч, канцлер дыяцэзіі, нагадаў прысутным пра юбілей біскупскай сакры ардынарыя дыяцэзіі, які будзе святкавацца 20 лістапада.

Апладысментамі святары і сёстры віталі навіну з вуснаў с. Фабіяны Патшонсай MSF пра з'яўленне падручнікаў па рэлігіі. Адметна тое, што яны распрацаваныя для ўсіх дыяцэзій Беларусі і выдадзены на беларускай мове. Гэта сапраўды каштоўны ўклад у развіццё катэхезы ў Касцёле на Беларусі.

Пасля духоўнай часткі гаспадар парафіі кс. Андрэй Аніскевіч запрасіў усіх на абед. Ён парупіўся, каб кожнаму было ўтульна на сустрэчы і ніхто не застаўся галодны. Хочацца нагадаць, што не так даўно менавіта стараннямі пробашча Лепельскай парафіі ў горадзе з'явіўся помнік легендарнаму Льву Сапегу, канцлеру Вялікага Княства Літоўскага. З'явілася таксама вуліца яго імя. Гэта дастойны прыклад руплівасці мясцовых уладаў пра гістарычную спадчыну Лепеля, мецэнатам якога і з'яўляўся Леў Сапега.

Наступная сустрэча духавенства Віцебскай дыяцэзіі пройдзе ў снежні ў Наваполацку.

***Фота: Кс. Віктар Місевіч.***




На агнявым рубяжы жанчыны.

■ **Яўген Самсонаў**

**Блізіцца да завяршэння круглагадовая спартакіяда сярод працоўных калектываў Глыбоцкага раёна. Чарговы від спаборніцтваў – стральба.**

З 12 каманд-удзельніц, ужо на прыкідку, па падрыхтоўцы і ўзбраенні, лідары у асабістым заліку былі вядомыя загадзя.

Бясспрэчна, хвала і гонар майстрам і знакамітасцям Глыбоцкага спорту. Але ж ад імя прадстаўнікоў працоўных калектываў і ад сябе асабіста, як адказнага за спорт у камунальнай гаспадарцы раёна, дазвольце задаць некалькі пытанняў. Чаму спартыўныя зоркі Глыбоччыны прыпілілі, як банны ліст, да працоўнай спартакіяды? Ці варта ставіць у адну вупраж цяглага каня і трапяткую лань? Навошта яны забіраюць граматы у рабацяг? Ёсць жа ў раёне спартакіяда сярод кіруючых работнікаў (а яны якраз усе з гэтай кагорты), выдаткоўваюцца сродкі, то ж няхай і змагаюцца паміж сабой і дзеляць свае граматы.

Што тычыцца непасрэдна спаборніцтваў, то яны праходзілі ў звычайным парадку. Удзельнік спаборніцтваў, работнік дзяржліцэя К. Чыжэўскі правёў спачатку інструктаж з прадстаўнікамі каманд, а затым і на агульным пастраенні. Патлумачыў, што трэба рабіць, а чаго нельга, звярнуўшы асаблівую ўвагу на тэхніку бяспекі. Затым пачаліся спаборніцтвы.

Сярод жанчын, выбіўшы 47 ачкоў з 100 магчымых, першае месца заняла Л. Чурко (Мясакамбінат), другое – прастаўнік РАЙПА М. Давыдава (37), О. Шаурка (29) з райвыканкама – трэцяе месца.

Сярод мужчын, маючы адмысловае прыстасаванне і адпаведную зброю, усіх пакінуў з носам К. Чыжэўскі, выбіўшы 70 ачкоў. 58 ачкоў – А. Мароз (Мясакамбінат) – другое месца, а прадстаўнік РВК А. Уткін (53) – на трэцім месцы.

У камандным заліку: 1 – Мясакамбінат. 2 – Дзяржпрафліцэй. 3 – РВК.

Сярод сяльгаспрадпрыемстваў усе лаўры дасталіся адзінай камандзе – СВК "Чарневічы".

*Зварот да ўсіх удзельнікаў дарожнага руху*

# 21 лістапада – Сусветны дзень памяці ахвяр дарожна-транспартных здарэнняў

■ **Дзяржаўтаінспекцыя Віцебскай вобласці**

**Штогод у выніку дарожна-транспартных здарэнняў гіне каля 1,3 мільёна чалавек і яшчэ 50 мільёнаў атрымліваюць траўмы і становяцца інвалідамі. Дарожна-транспартныя здарэнні з'яўляюцца першай па значнасці прычынай смерці маладых людзей ва ўзросце 10-24 гадоў.**

Ідэя штогадовага дня памяці ахвяр дарожных аварый прыйшла ад брытанскага дабрачыннага фонду дапамогі ахвярам ДТЗ, які адзначае гэты дзень з 1993 года. У 1995 годзе дэлегаты Генеральнай асамблеі Еўрапейскай федэрацыі ахвяр ДТЗ падтрымалі ідэю правядзення агульнага Дня памяці. У 1996 годзе памятныя цырымоніі правялі арганізацыі дапамогі пацярпелым з Аўстрыі, Люксембурга, Нідэрландаў, Бельгіі, Нямеччыны, Грэцыі, Італіі, Партугаліі, Іспаніі. У 1998 годзе Дзень памяці выйшаў за межы Еўропы і з'явіўся на іншых кантынентах.

**Толькі з пачатку бягучага года ў Віцебскай вобласці адбылося 619 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх 113 чалавек загінулі і больш за 600 атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці. У 65 аварыях загінула 5 дзяцей і 60 былі шпіталізаваны.**

26 кастрычніка 2005 года ў сваёй рэзалюцыі Генеральная Асамблея ААН заклікала ўсе краіны-члены па ўсім свеце прызнаць Сусветны дзень памяці ахвяр ДТЗ і адзначаць яго ў трэцюю нядзелю лістапада.

Гэты дзень быў зацверджаны для таго, каб ушанаваць памяць ахвяр дарожна-транспартных здарэнняў, прыцягнуць увагу грамадскасці да ДТЗ, іх наступстваў і звязаных з імі выдаткамі, а таксама да мер, якія можна прыняць для іх папярэджання.

Напэўна, напярэдадні 21 лістапада трэба ўспомніць, што за статыстычнай лічбай 113 загінулых у нашай вобласці – столькі ж трагедый і гора. І нават больш. Таму што кожны з загінулых быў камусьці сынам ці дачкой, братам ці сястрой, бацькам ці маці, унукам ці ўнучкай, сябрам ці сяброўкай, калегам... Хтосьці з іх стаўся вінаваты сам, а хтосьці папакутаваў бязвінна. Але зразумела, што ніхто з іх не хацеў гінуць і, хутчэй за ўсё, ва ўсіх гэтых здарэннях ніхто не хацеў нікога забіваць. Проста не падумалі, не звярнулі ўвагі, паспяшаліся, нарэшце, – проста адбылася недарэчная выпадковасць, апынуліся не ў тым месцы і не ў той час.... На жаль, на дарогах сёння штодня ідзе вайна грамадзян з грамадзянамі. Кіроўцаў – з пешаходамі, і кіроўцаў – з кіроўцамі.

Паважаныя сваякі і сябры, калегі, суседзі загінулых і пацярпелых у дарожных аварыях! Усе, незалежна ад узросту, полу, прафесіі, сацыяльнага статусу, службовага становішча, веравызнання.



Напэўна, у дзень памяці ахвяр ДТЗ не варта высвятляць, хто мае рацыю, хто – вінаваты. Трэба проста ўспомніць кожнага, хто стаў ахвярай дарожнай утрапёнасці. А яшчэ – патэлефанаваць, зайсці, падтрымаць родных і блізкіх загінулых, пакінутых самнасам са сваім горам. Хто можа – дапамагчы. Хто можа – памаліцца. Усім павініцца. Хоць бы таму, што сярод загінулых і пацярпелых ёсць дзеці. Але нават калі дзеці былі неасцярожныя і таму загінулі, то вінаватыя ў гэтым мы, дарослыя. Не навучылі, не дагледзелі, падалі дрэнны прыклад... А яшчэ – перавысілі хуткасць, вылецелі на сустрэчную, не выкарыстоўвалі рэмень бяспекі, не пасадзілі малога ў адмысловае крэсла, не звярнулі ўвагу на знакі «пешаходны пераход» ці «дзеці»....

Давайце хоць бы ў гэты дзень не рызыкаваць дарма сабой і іншымі!

# Як абараніць нашу хату ад пажару

■ **Р. Ермаковіч,**
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС.*

**Нагадваем некаторыя прафілактычныя меры, якія прадухіляць пажар у Вашым доме:**

- не пакідайце без нагляду ўключаныя ў сетку электрапрыборы, печы , якія цепляцца, і не даручайце нагляд за імі дзецям;
- не загрувашчвайце праходы, калідоры і праезды ў дварах, штодня праводзьце ўборку саломы, сена і іншага матэрыялу вакол будынкаў;
- не паліць у адрынах, на гарышчах, у скляпах і ў пасецы;
- увесь час утрымоўваць у спраўным стане пячное ацяпленне, электраправодку і інш. электрапрыборы;
- не распальвайце печы ацяплення газай (керасіном), бензінам і іншымі гаручымі вадкасцямі;
- не высыпайце незатушаныя вуглі і попел паблізу будынкаў;
- не карыстайцеся самаробнымі засцерагальнікамі («жучкамі»); не заляпляйце электраправодку шпалерамі;
- не пакідайце дома дзяцей адных без нагляду! Не дазваляйце ім гуляць з запалкамі. Захоўвайце запалкі ў недаступных месцах.

Сыходзячы з дому, **ПРАВЕРЦЕ:**

- ці перакрыты кран падачы газу і ці адключаныя ад сеткі ўсе электрапрыборы;
- ці не пакінуты абыдзе магчымыя крыніцы пажару.

У ВЫПАДКУ ЎЗНІКНЕННЯ ПАЖАРУ ТЭЛЕФАНУЙЦЕ – 101.

**МНС ІНФАРМУЕ:**
на 15.11.2010.

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1272;
Гібель людзей – 186 з іх дзяцей няма;
Урон – 2 665 300 000 руб.,
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 58;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон – 101 300 000 руб.

## Урад прапануе адмовіцца ад паручыцельства пры крэдытаванні будаўніцтва жылля

Урад Беларусі ініцыюе перад банкамі адмову ад інстытута паручыцельства пры крэдытаванні будаўніцтва жылля. Пра гэта заявіў у пятніцу прэм’ер-міністр Сяргей Сідорскі, адказваючы на пытанні работнікаў ААТ «Полацк-Шкловалакно».

Прэм’ер-міністр паведаміў, што праект указа падрыхтаваны, узгоднены з банкаўскай супольнасцю і ў найбліжэйшы час будзе прадстаўлены кіраўніку дзяржавы.

Гарантам вяртання банкаўскіх крэдытаў павінны стаць гарантаваная заработная плата і залог маёмасці, лічыць Сяргей Сідорскі.

Пры гэтым ён адзначыў, што льготнае крэдытаванне будзе больш шырока распаўсюджвацца на сем’і з трыма і больш дзецьмі, урад разглядае магчымасць прадастаўлення больш шырокіх ільгот па будаўніцтве жылля такім сем’ям.

«Даючы льготныя крэдыты на жыллё, дзяржава павінна атрымліваць дэмаграфічную выгаду», — сказаў Сяргей Сідорскі.

*Дыяна Курыла, БЕЛТА.*

# Інспектары дапамаглі вынесці з возера добры ўлоў, а заадно і склалі пратаколы

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслінннага свету.*

За 10 месяцаў 2010 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету спынена 307 правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, па 11 парушэннях узбуджаны крымінальныя справы, 10 з якіх за незаконную лоўлю рыбы, 1 крымінальная справа за незаконнае захоўванне агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў. Асноўная колькасць выяўленых правапарушэнняў – 179, парушэнне Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у парушальнікаў канфіскавана 152 рыбалоўныя сеткі агульнай даўжынёй 6 км. 700 метраў, 32 адзінкі іншых прылад рыбалоўства (мярожы, броднікі, пад'ёмныя сеткі), 270 кг незаконна здабытай рыбы. Спынены 23 парушэнні Правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, у парушальнікаў канфіскавана 8 адзінак агнястрэльнай зброі, 2 з якіх незарэгістраваныя, выяўлена 60 парушэнняў лесакарыстання, канфіскавана 9 куб.м. незаконна нарыхтаванай драўніны, 30 пратаколаў за іншыя правапарушэнні, у асноўным за выкід смецця. За 10 месяцаў 2010 года на тэлефон «гарачай лініі» міжрайінспекцыі ад грамадзян паступіла 48 паведамленняў пра здзейсненыя правапарушэнні, усе яны праверaны, складзена 75 пратаколаў, узбуджана 6 крымінальных спраў.

Цёплае лістападаўскае надвор'е, якое усталявалася, дазваляе браканьерам здзяйсняць набегі на нашы вадаёмы, нягледзячы за вельмі строгія меры адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці, але колькі вяровачцы не віцца ...

13 лістапада 2010 г. раніцай сустрэліся два родныя браты і 3 жыхары суседніх вёсак Глыбоцкага раёна. Нагода для сустрэчы была: у малодшага брата дзень нараджэння, вялікае свята. Трэба рыбкі налавіць на юшку і на закуску да вечара, на тым і парашылі. Узяўшы сеткі, у 10 гадзін раніцы пайшлі на возера Сеты, што паблізу в. Запруддзе, пачалі лавіць рыбу: паставяць сеткі ўздоўж берага, паганяюць – вось і рыбка ў сетках. Злавілі за кароткі час некалькі добрых шчупакоў, акуня ды гусцяру. Усё было б нічога, ды раптам, адкуль ні вазьміся, з'явіліся работнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, яны і дапамаглі вынесці з возера добры ўлоў, а заадно і склалі пратаколы за браканьерства, зараз замест віншаванняў парушальнікаў чакае штраф. А ўлічваючы, што парушальнік-імяніннік у жніўні 2010 г. ужо прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за браканьерства, яго чакае крымінальная адказнасць. З прыведзенага прыкладу можна смела сказаць, што 13 – сапраўды нешчаслівая лічба.



Такіх прыкладаў можна прыводзіць шмат, але ўсё адно яшчэ не перавяліся аматары «рыбалоўнай клубнічкі», ды толькі заўсёды любы браканьер калі-небудзь ды трапіцца, задумайцеся над гэтым.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: «гарачай лініі» 8-02156 - 2 86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

